Выходзіць з 20 снежня 1945 года

# Настаўніцкая газета

№ 71 - 72 (5402 - 5403)
Субота, 15 чэрвеня 2002 года

ВЫДАННЕ АСВЕТНІКАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

З дакладных крыніц

## Больш ініцыятывы на мясцовым узроўні

***Міністэрства адукацыі працягвае каардынацыйную работу сярод кіраўнікоў усіх узроўняў па пытаннях рэарганізацыі адукацыйнай сістэмы. Пэўныя напрацоўкі гэтай работы абагульняе ў інтэрв'ю нашай газеце першы намеснік Міністра адукацыі Аляксандр Іванавіч ЖУК.***



**- Вядома, што сёлета намнога раней звычных тэрмінаў, а гэта і зразумела, Міністэрства адукацыі распрацавала і даслала ва ўсе навучальныя ўстановы цэлы пакет нарматыўных матэрыялаў, вучэбна-планавальнай дакументацыі, якія тычацца пераходу нашых школ у новы рэжым. Але, па ўсёй верагоднасці, дзейнасць міністэрства на гэтым не абмяжоўваецца.**

- Сапраўды, аднымі толькі загадамі, інструкцыямі міністэрства справу не вырашыць. Тым больш, калі гаворка ідзе аб такіх адчувальных пераменах, якія адбываюцца сёння ў нашай адукацыі. І ўвогуле скажу, што мы прытрымліваемся прынцыпу ўсебаковага абмеркавання ўсімі зацікаўленымі асобамі тых інавацый, якія сёння прапануюцца. Хацелася б, а часцей так яно і ёсць, каб наватвядзенні зацікавілі і вучоных, і практыкаў. А інакш немагчыма спадзявацца на паспяховую іх рэалізацыю. Даведацца пра настрой нашых педагогаў, іх стаўленне да адукацыйных змен дапамагаюць так званыя жывыя сустрэчы. Нездарма ж усе намеснікі Міністра адукацыі, іншыя супрацоўнікі міністэрства ўжо неаднаразова выязджалі і паедуць яшчэ ў рэгіёны для далейшага замацавання сувязей і падтрымкі цесных кантактаў з кіраўнікамі і калектывамі школ.

**- ...і правядзення растлумачальнай работы?**

- Так, гэта сёння лічыцца першачарговай задачай. Пры наяўнасці, як кажуць, на руках шэрагу дакументаў пра пераход на 5-дзённы вучэбны тыдзень, пра арганізацыю суботняга дня, укараненне ў вучэбны працэс 10-бальнай сістэмы ацэнкі ведаў, усё ж узнікае шмат пытанняў з боку нашай педагагічнай грамадскасці. І гэта зразумела: новая справа заўсёды патрабуе растлумачэння.

Праўда, 10-бальную сістэму ў школах ужо даўно апрабіруюць, таму тут праблем не ўзнікае. А вось з пераходам на 5-дзённы вучэбны тыдзень і з арганізацыяй суботняга дня яшчэ пытанняў шмат. Вопыт, хоць і невялікі, ёсць у гэтым толькі ў брэстчан.

Найбольш за ўсё кіраўнікоў хвалюе шосты рабочы дзень. Часта чуюцца пытанні пра яго арганізацыю, планаванне, зместавае напаўненне, харчаванне, падвоз дзяцей. Не менш занепакоены і бацькі. Ім неяк нязвыкла, што іх дзеці могуць не ісці ў школу ў суботу. А адсюль: чым іх заняць і што прапаноўвае дзецям школа?

**- Відаць, у такім выпадку трэба прадугледзець і сустрэчы з бацькамі.**

- Што мы і робім. Даўно зразумела, што сёння ў адзінае педагагічнае асяроддзе павінны аб'ядноўвацца не толькі калектывы настаўнікаў і кіраўніцтва, а і бацькі. І каб яны сталі нашымі прыхільнікамі, сярод іх абавязкова трэба весці інфармацыйную работу.

А гэтым павінна займацца, у першую чаргу, сама школа. Тут можна выкарыстоўваць самыя розныя формы работы. Напрыклад, размясціць, а гэта ўжо даўно пара, каля школы альбо ў самім будынку ярка аформленыя стэнды з разнастайнай інфармацыяй: што ўяўляе сабою 10-бальная сістэма ацэнкі ведаў вучняў, што закладзена ў новых вучэбных планах і праграмах пры пераходзе на пяцідзёнку, чым будзе насычана субота і гэтак далей. Было б добра зацікавіць арганізацыяй суботняга дня і саміх бацькоў. Яны маглі б не толькі прапанаваць сваю праграму, а і паўдзельнічаць у мерапрыемствах разам са сваімі дзецьмі.

Мэтазгодна кожнай установе было б правесці, акрамя ўжо запланаваных педагагічных саветаў, пасяджэнняў метадычных аб'яднанняў, яшчэ і сходы з бацькамі і вучнямі. А то і не адзін раз.

**- Аляксандр Іванавіч, як прыжываецца сярод нашых кіраўнікоў эканоміка адукацыі?**

- Яна, менавіта, і нараджае сёння найбольшую колькасць пытанняў. Зазначу, што ўсё ж эканамічная дасведчанасць нашага кіраўніцтва пакуль на недастатковым узроўні. І нам трэба імкнуцца да яе ўдасканалення, хаця б шляхам усенавуча. Таму і плануем у бліжэйшы час арганізаваць эканамічную вучобу для кіраўнікоў нашых навучальных устаноў. Канешне, шмат пытанняў гучыць на сустрэчах і ў час нарад па новай сістэме аплаты працы педагагічных работнікаў, размеркавання вучэбных гадзін, тарыфікацыі, аплаце за класнае кіраўніцтва, арганізацыі платных адукацыйных паслуг. Так, некаторыя кіраўнікі сельскіх школ мяркуюць, што гэтыя паслугі трэба развіваць кожнай школе ў абавязковым парадку. Некаторых бянтэжыць іх пералік і тое, як іх рэалізоўваць. На ўсе гэтыя пытанні мы імкнемся даць грунтоўныя адказы і ў час чарговых нарад. Напрыклад, нядаўна фінансавая дзейнасць навучальных устаноў абмяркоўвалася сярод намеснікаў начальнікаў упраўленняў адукацыі аблвыканкамаў. Самыя важныя пытанні, якія ўзніклі ў час гэтай нарады, ужо абагульняюцца ў міністэрстве і ў хуткім часе адказы будуць надрукаваны ў "Настаўніцкай газеце".

Хачу яшчэ адзначыць, што ў летні перыяд папулярызацыяй інавацыйных працэсаў у сістэме адукацыі будуць займацца і такія метадычныя часопісы, як "Адукацыя і выхаванне" і "Народная асвета".

Таму раю нашым педагогам не прапускаць ніводнага нумара гэтых выданняў.

**- Месяц чэрвень усё яшчэ стракаціць новымі сустрэчамі і нарадамі?**

- Работа не спыніцца і ў наступныя летнія месяцы і, хутчэй за ўсё, набудзе новы імпульс. Да пачатку навучальнага года застаецца не так шмат часу, таму трэба ўсё паспець.

Бягучы месяц насычаны нарадамі па ўсёй метадычнай вертыкалі. Ужо прайшоў рэспубліканскі семінар метадыстаў інстытутаў павышэння кваліфікацыі і перападрыхтоўкі педагагічных кадраў на базе Акадэміі паслядыпломнай адукацыі. Падобныя нарады адбудуцца ў раённых аддзелах адукацыі, куды будуць запрошаны кіраўнікі школ і завучы. Адметнай стала нарада работнікаў устаноў спецыяльнай адукацыі. Былі закрануты пытанні аднаўлення зместу адукацыі дзяцей з псіхафізічнымі асаблівасцямі, інтэграцыі навучання, а таксама ўсе тыя пытанні, якія тычацца пераходу на 5-дзённы вучэбны тыдзень і 10-бальную сістэму ацэнкі ведаў.

Плануюцца таксама выезды кіраўнікоў міністэрства ва ўсе вобласці рэспублікі.

Хачу нагадаць і яшчэ пра адну падзею, якая адбудзецца ў жніўні: гэта правядзенне Рэспубліканскага тэлевізійнага педагагічнага савета, які вынесе пытанні мадэрнізацыі айчыннай адукацыі на абмеркаванне не толькі педагагічнай, а ўвогуле ўсёй грамадскасці.

**- Я думаю, вы пагодзіцеся, што ў нашых кіраўнікоў узнікае шмат пытанняў прыватнага і, калі можна так сказаць, мясцовага характару.**

- Сапраўды, з некаторымі пытаннямі непасрэдна ў міністэрства можна і не звяртацца. Як я ўжо сказаў, яно падрыхтавала грунтоўную базу для правядзення рэарганізацыі. А раскладваць па палічках - гэта ўжо задача мясцовых органаў кіравання. Закон аб самакіраванні дае ім магчымасць праяўлення асабістай ініцыятывы. Раённыя аддзелы адукацыі, непасрэдна кіраўнікі навучальных устаноў павінны самастойна насычаць дзейнасць сваіх школ, улічваючы пры гэтым спецыфіку мясцовасці, наяўнасць інфраструктуры, кантынгент навучэнцаў і гэтак далей.

Хачу пажадаць нашым кіраўнікам, усім педагогам актыўнасці, ініцыятывы, творчасці. І не баяцца цяжкасцей.

**- Аляксандр Іванавіч, хачу выкарыстаць момант, каб задаць яшчэ адно пытанне. Можа яно не па тэме нашай размовы, затое - па сезону. Пра ўступныя экзамены. Ужо, як вядома, створана Дзяржаўная камісія па кантролю за ходам уступных экзаменаў, каб забяспечыць роўныя ўмовы для ўсіх абітурыентаў. У сельскіх школьнікаў сёлета будзе зноў жа асобны конкурс. А як пройдзе ўступная кампанія ў прыватныя ВНУ?**

- Яна будзе праходзіць гэтым летам з некаторымі змяненнямі. У сувязі з увядзеннем новага Закону аб адукацыі, выпускнікі прыватных вышэйшых навучальных устаноў атрымліваюць сёлета дыпломы дзяржаўнага ўзору. Таму, натуральна, Міністэрства адукацыі ўзмацняе патрабаванні да арганізацыі ўступнай кампаніі ў прыватных ВНУ. Калі раней яны маглі праводзіць прыём студэнтаў паводле свайго меркавання, дык сёлета толькі ў фіксаваныя дні, як і дзяржаўныя ВНУ. Акрамя таго, прыватныя ўстановы будуць праводзіць і цэнтралізаваны экзамен па рускай альбо беларускай мове, змест якога падрыхтаваны нашым міністэрствам. Ёсць меркаванне праводзіць у "прыватнікаў" уступныя экзамены ў два патокі. Але канчатковы варыянт будзе выпрацаваны ў час нарады з рэктарамі прыватных вышэйшых навучальных устаноў.

Гутарыла
Ала КЛЮЙКО.



Аня Каткоўская - удзельніца ансамбля народнай музыкі "Карабейнікі" Аршанскага раённага Дома культуры. Калектыў, у якім яна грае, - прызёр і дыпламант многіх конкурсаў і фестываляў.

Фота Аляксандра ХІТРОВА, БЕЛТА.

## Запазычанасць - за 7 месяцаў

***Толькі пяць раёнаў Брэсцкай вобласці імкнуцца своечасова разлічыцца з педагогамі за набыццё метадычнай літаратуры. Сярод іх - Брэсцкі, Жабінкаўскі, Іванаўскі, Лунінецкі, Маларыцкі. Тут няма запазычанасці альбо яна невялікая. Такую інфармацыю рэдакцыя атрымала ў Рэспубліканскім камітэце прафсаюзаў работнікаў адукацыі і навукі па стану на 6 чэрвеня.***

"Своеасабліва" разлічваюцца з педагогамі ў Баранавіцкім раёне. За 2001 год запазычанасць складае 8 мільёнаў. За чатыры месяцы бягучага года дапамога атрымана, а за май - не. У Камянецкім раёне за 2001 год запазычанасці назбіралася ўжо за 7 месяцаў. За 2002 год яна выплачана за І квартал.

У Пружанскім і Столінскім раёне грошы на метадычную літаратуру не выплочваюцца са снежня 2001 года, са студзеня 2002 года - у Ганцавіцкім, Драгічынскім і Івацэвіцкім, з лютага - у Ляхавіцкім, Пінскім, Бярозаўскім. Сакавіцкую дапамогу не атрымалі педагогі Пінска.

10 чэрвеня Рэспубліканскім камітэтам прафсаюзаў накіраваны ліст старшыні Брэсцкага аблвыканкама В.Б.Даўгалёву, у якім кіраўнік вобласці праінфармаваны аб сітуацыі з выплатай дапамог на метадычную літаратуру.

Ала ШАЎЦОВА.

Навіны

### Акадэмія мастацтваў рыхтуецца да ўступнай кампаніі

***Цяга да мастацтва ў моладзі не знікае, а толькі мацнее з кожным годам. Пацвярджэннем гэтага можа служыць стабільна высокі конкурс на паступленне ў Беларускую дзяржаўную акадэмію мастацтваў.***

Да сёлетняй уступнай кампаніі, якая стартуе 7 ліпеня, кіраўніцтва ВНУ рыхтуецца асабліва старанна, расказаў рэктар акадэміі доктар мастацтвазнаўства прафесар Рычард Смольскі. Паводле яго слоў, прымаюцца ўсе неабходныя меры, каб стварыць аднолькавыя магчымасці для абітурыентаў, забяспечыць поўны кантроль за справядлівасцю працэсу адбору. Так, напрыклад, уведзена 10-бальная сістэма, якая, на думку рэктара, прадастаўляе больш шырокую "палітру" для дакладнай ацэнкі таленту юнака або дзяўчыны.

Найбольшым попытам у абітурыентаў традыцыйна карыстаюцца кафедры дызайну і кінамастацтва. Спецыялісты прадказваюць таксама папулярнасць новай спецыяльнасці "Тэлерэклама", на якую аб'яўлены набор у гэтым годзе. У задумках кіраўніцтва ВНУ на будучы год - пачаць падрыхтоўку спецыялістаў па фотамастацтву.

Трапіць у лік студэнтаў Беларускай акадэміі мастацтваў няпроста, адзначыў Рычард Смольскі. Як правіла, тыя, хто збіраецца паспрабаваць свае сілы, ужо валодаюць першапачатковымі навыкамі (асабліва гэта датычыцца мастацкага факультэта). Акрамя таго, працуе спецыяльная адборачная камісія, якая "адсейвае" не самых здольных абітурыентаў яшчэ да ўступных экзаменаў. Дарэчы, у гэтым годзе дабавіўся экзамен (пяты па ліку) па гісторыі сусветнай і айчыннай мастацкай культуры.

### Адпускныя сталічным педагогам выплацяць своечасова

***Адпускныя сталічным педагогам будуць выплачаны своечасова і ў поўным аб'ёме, запэўніў старшыня камітэта па адукацыі і справах моладзі Мінскага гарвыканкама Міхаіл Ціцянкоў.***

Прэс-канферэнцыя з яго ўдзелам адбылася 12 чэрвеня ў сталічнай мэрыі. Паводле слоў Міхаіла Ціцянкова, сярэдняя заработная плата настаўнікаў складае сёння каля 190 тысяч рублёў з улікам даплат, якія прадастаўляе Мінгарвыканкам. На пытанне, ці маюць падставу чуткі аб тым, што з пачатку новага навучальнага года такія выплаты будуць ліквідаваны, Міхаіл Ціцянкоў адказаў: "Пакуль што ў мэрыі гэта праблема не разглядалася". Канчатковае рашэнне будзе прынята ў канцы жніўня. Аднак, як мяркуе Міхаіл Ціцянкоў, у 2002-2003 навучальным годзе выплаты, накіраваныя на падтрымку сталічных педагогаў, захаваюцца.

(Па матэрыялах БЕЛТА.)

Выпускныя экзамены

## Былі адказы і бліскучыя...

### Але настаўнікі гісторыі і дзевяцікласнікі не ўсім задаволены

*"Пры правядзенні экзамену па гісторыі Беларусі галоўная ўвага звяртаецца на валоданне вучнямі асновамі ведаў аб гістарычным шляху Айчыны. Вучні павінны ўмець суадносіць асобныя гістарычныя з'явы і працэсы з адпаведнымі перыядамі гісторыі Беларусі і сусветнай гісторыі, раскрываць асноўныя гістарычныя этапы і падзеі, аналізаваць, абагульняць і ацэньваць гістарычныя факты, устанаўліваць прычынна-выніковыя сувязі, даваць параўнальную характарыстыку гістарычных з'яў, працэсаў, дзеячаў".*

Так гаворыцца ў тлумачальнай запісцы да білетаў для выпускных экзаменаў за курс базавай школы з беларускай і рускай мовамі навучання на 2001-2002 навучальны год, зацверджаных Міністэрствам адукацыі Рэспублікі Беларусь. Патрабаванні - даволі высокія, маецца на ўвазе, што вучань павінен мець грунтоўную падрыхтоўку, якую атрымае падчас вучобы з пятага па дзевяты клас. А грунтоўную падрыхтоўку можна атрымаць у тым выпадку, калі будзеш сістэматычна, а галоўнае - шмат, займацца па прадмету. Хочацца заўважыць — на прадмет "Гісторыя", і ў прыватнасці "Гісторыя Беларусі", праграмай адводзіцца ўсяго гадзіна ў тыдзень.

Тым не менш чарговы выпускны экзамен па гісторыі Беларусі за курс базавай школы ў сярэдняй школе № 64 сталіцы, можна сказаць, прайшоў паспяхова. Як і на любым іншым экзамене, былі адказы бліскучыя і так сабе. У пэўнай ступені гэта залежала ад зместу білета. Усім вядома, экзамен - латарэя. Калі пашчасціць, выцягнеш "лёгкі" білет, калі не, дык не. Вось вам прыклад. Вучаніца 9"В" класа Алена Кайкова выцягнула чацвёрты білет. Пашчасціла ёй ці не, зараз вы самі зразумееце. Першае пытанне яе білета гучыць наступным чынам: "Культура Беларусі ў X-XIII стст." Быццам бы кароткае пытанне, а дакладней - яго фармулёўка. Але калі ўдумацца ў змест, дык межы яе вельмі пашыраюцца. Гэта ж трэба ахапіць тры стагоддзі адразу! Дый само паняцце "культура" - далёка не вузкае. Узнікае адчуванне, што ў X-XIII стагоддзях культуры на Беларусі амаль не было, і тры стагоддзі ўсё стаяла на месцы. Але ў гэты час паяўляюцца першыя помнікі пісьменнасці (Барысавы камяні), адбываецца нараджэнне літаратуры. Такія дзеячы, як Еўфрасіння Полацкая, Кірыла Тураўскі, праславілі нашу краіну на ўвесь свет, і для культуры яны шмат чаго зрабілі. Пра ўсё гэта можна гаварыць, гаварыць і гаварыць, улічваючы тое, што "...вучні павінны ўмець аналізаваць, абагульняць і ацэньваць гістарычныя факты". Алена Кайкова зрабіла спробу засяродзіць увагу экзаменатараў перш-наперш на постаці Еўфрасінні Полацкай, ды яшчэ на яе біяграфіі, але, як вядома, падчас X-XIII стагоддзяў несла "культуру ў масы" далёка не яна адна.

Другое пытанне білета пераносіла ў дваццатае стагоддзе - "БССР у гады новай эканамічнай палітыкі". Тут ужо трошкі прасцей: паколькі існавала камандна-адміністрацыйная палітыка, наспеў час перамен, што азначала надыход новай эканамічнай палітыкі. Але што гэта такое і з чым яе ядуць, з аповяду Алены я так і не зразумела.

Яе адказ доўжыўся дзесьці хвілін 15-20. Зразумела, што пра ўсё за такі час расказаць немагчыма, але засяродзіць увагу на асноўных паняццях і фактах можна. З нецярпеннем чакала заканчэння экзамену, каб ведаць пра яго вынікі. Ніколі не даводзілася прысутнічаць на абмеркаванні і выстаўленні адзнак за экзамен - вельмі ж хацелася даведацца, колькі балаў атрымае Алена.

Надзіва, абмеркаванне прайшло хутка, спрэчак не было. Усе члены камісіі прытрымліваліся пункту погляду настаўніцы-прадметніцы гэтага 9"В" класа Алены Васільеўны Целяш. Пры выстаўленні адзнак улічваліся шматлікія фактары: гадавая адзнака, адзнакі, што выстаўляліся за кожную чвэрць і, нарэшце, адзнака за адказ на экзамене. Алена Кайкова атрымала чацвёрку. Пра справядлівасць у гэтым выпадку гаварыць цяжка, бо ёсць яшчэ і адваротны бок медаля.

Вернемся крыху назад, у перыяд самога навучальнага года. Дзевяты выпускны клас, на носе - экзамен, а экзамен, у сваю чаргу, патрабуе падрыхтоўкі. Дзе, як не на ўроку, можна рыхтаваць вучняў? Самастойна ж яны пачнуць падрыхтоўку непасрэдна перад экзаменам. Але тут узнікае адно "але". Праграмай прадугледжваецца ўсяго толькі адна гадзіна выкладання гісторыі Беларусі на тыдзень. У дзявятым жа класе яшчэ трэба займацца вывучэннем новага. Пасля экзамену настаўнікі з экзаменацыйнай камісіі бедавалі: "Не хапае часу матэрыял патлумачыць як след, а яго яшчэ і паўтарыць, замацаваць неабходна! А што можна зрабіць за гадзіну? Ды яшчэ падручнік нікуды не варты. У ім вельмі мала дадатковага матэрыялу і шмат непатрэбнага, таму нашы дзеці пры падрыхтоўцы да экзамену карыстаюцца "Дапаможнікам для паступаючых у ВНУ па гісторыі Беларусі". Атрымліваецца, што асабліва наракаць на адказы тых, каго экзаменуюць, не выпадае. Ды і дзеці з рознымі здольнасцямі бываюць. На экзамене гучалі і бліскучыя адказы. Напрыклад, Аляксея Лапшына. Хлопец без памылак прадэманстраваў свае веды па становішчы беларускіх гарадоў у другой палове XVII-XVIII стст., пра першыя мануфактуры. Ён нават пра адукацыю тых часоў успомніў. Потым даволі хутка пераключыўся на дзейнасць ААН, міжнародныя сувязі нашай краіны на сучасным этапе. І трапна адказваў на дадатковыя пытанні. Вось Аляксей Лапшын добра ўпісваецца ў рамкі патрабаванняў, прыведзеных на пачатку артыкула.

Колькі слоў, але не сваіх, хочацца сказаць пра экзаменацыйныя білеты. Пасля экзамену я звярнулася да стомленых і шчаслівых дзевяцікласнікаў з пытаннем: "Вас задавальняе змест, аб'ём пытанняў у білетах?" І даведалася наступнае.

Ксенія Хахракова: "Некаторыя пытанні па культуры былі вельмі аб'ёмныя. Напрыклад, у дваццатым білеце першае пытанне "Культура Беларусі ў XX стагоддзі". Яго можна было б разбіць на некалькі: мастацтва, музыка, архітэктура і г.д.".

Можа, гэта і нечакана, але з поглядамі сваіх вучняў пагадзіліся і настаўнікі - пытанні ў білетах сапраўды аб'ёмныя, пераважна аглядныя, ды і ўвогуле нічога там не прадумана. Кожны год у іх нешта змяняецца - у мінулым годзе іх было дваццаць, у гэтым жа — ужо дваццаць тры, а ў праграме як была адна гадзіна на тыдзень, так і засталася. Застаецца толькі на здольных спадзявацца, каб адпавядаць патрабаванням Міністэрства адукацыі.

Вольга ДУБОЎСКАЯ.

